*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 47 (783) 22 ЛІСТАПАДА 2006 г.

## 200 гадоў з дня нараджэння Эміліі Плятэр



**ПЛЯТЭР,** Броэль-Плятэр, Эмілія Францаўна (13.11.1806, Вільня — 23.12.-1831), бел. фалькларыстка, удзельніца паўстання 1830-31 у Польшчы, Беларусі і Літве. З 9 гадоў жыла ў маёнтку Ліксна Віцебскай губ. Збірала і апрацоўвала бел. нар. песні, захаплялася бел. харэаграфіяй, пісала вершы, стылізаваныя пад нар. плачы-галашэнні. Калі пачалося паўстанне ў Польшчы, П. 29.3.1831 узняла паўстанне ў мяст. Дусяты (Дусетас). За кароткі час здолела арганізаваць партыз. аддзел колькасцю ў 280 стралкоў, 60 коннікаў і некалькі сотзень касінераў, і разам са стрыечным братам Ц. Плятэрам павяла аддзел на Дынабург (Даўгаўпілс). 30 сак. паўстанцы разбілі невял. рас. аддзел каля паштовай ст. Даўгелі, 2 крас. адбыўся бой з ахоўнай часткай ген. Шырмана, потым — бой пад Уценай і 4 крас. захоп мяст. Езяросы. Пасля разгрому казакамі паўстанцаў П. на чале невял. групы партызан далучылася да аддзела К. Залускага. 17 траўня аддзел П. заняў Вількамір, а пасля далучыўся да аддзела К. Парчэўскага, які ў чэрв. ўліўся ў рэгулярнае польск. войска Д. Хлапоўскага. П. была ўключана ў яго штаб. За смеласць і рашучасць у баявых дзеяннях камандаванне паўстанцкімі сіламі прызначыла П. ганаровым камандзірам роты ў пяхотным палку і прысвоіла ёй званне капітана. Не пагадзіўшыся з намерам Хлапоўскага перайсці ў Прусію і скласці зброю, вырашыла самастойна дабрацца да Польшчы. У маёнтку Абламовіча ў кастр. 1831 яна захварэла і памерла. Пахавана ў в. Капчамесціс (Літва). А. Міцкевіч, які ведаў П., напісаў у яе гонар верш "Смерць палкоўніка" (1832). Вобраз П., у значнай ступені рамантызаваны, паслужыў асновай для увасаблення ў розных відах мастацтва, аб ёй пісалі вершы польскія, франц., ням., англ., венг., італьян. і інш. паэты. У Францыі яе параўноўвалі з Жаннай д'Арк. Мастак В.Косак намаляваў партрэт, з малюнка Дэверыя зроблена літаграфія. Імя П. насіў асобны жаночы батальён 1-й пях. дывізіі імя А.Т. Касцюшкі Войска Польскага, сфарміраванай у 1943 у СССР.

## "Нашай Ніве" - 100




**«НАША НІВА»,** штотыднёвая грамадска-палітычная, навукова-асветная і літаратурна-мастацкая газета нацыянальна-адраджэнскага кірунку. Выдавалася з 10(23).11.1906 па 7(20).8. 1915 у Вільні на бел. мове кірыліцай, да 18(31).10.1912 — паралельна лацінкай. Заснавана братамі І. і А. Луцкевічамі, В. Іваноўскім, А. Уласавым, А. Пашкевіч (Цётка) і інш. Рэдактары - выдаўцы С. Вольскі, Уласаў, (з 8.12.1906 г.), Янка Купала (з 7.3.1914 рэдактар, з 16.5.1914 рэдактар-выдавец). Рэдактарамі аддзелаў у розны час былі Я. Купала, Я. Колас, З. Бядкля, Х. Імшэнік, В. Ластоўскі, Ядвігін Ш., С. Палуян, А. Бульба. Друкавала літаратурныя творы ўсіх жанраў, нарысы, навукова-папулярныя артыкулы, інфармацыю з усіх рэгіёнаў Беларусі і замежжа. Фальклор і інш. віды нар. творчасці разглядала як выяўленне нац. свядомасці, крыніцу развіцця мастацкай культуры, яе нац. самабытнасці.

Мела больш за тры тысячы карэспандэнтаў па ўсёй Беларусі, у Маскве, Пецярбургу, Сібіры, за мяжой. Адыграла выключную ролю ў станаўленні і выхаванні беларускай нацыянальнай свядомасці, першай выйшла на шырокія масы беларускага народа была адным з дойлідаў беларускай нацыі.

*(Пра "Нашу Ніву" чытайце на ст. 2.)*

## Да 100-годдзя "Нашай Нівы"

У памяшканні Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы 23 кастрычніка адбыўся навуковы семінар пад назвай "Янка Купала – рэдактар і выдавец "Нашай Нівы"."

Ва ўтульнай экспазіцыйнай зале музею з дакладамі і навуковымі паведамленнямі выступілі дзеячы беларускай культуры: філолагі (В. Рагойша, П. Навойчык, Г. Тычка), гісторыкі (А. Слука, А. Унучак), філосафы (Ул. Конан), пісьменнікі (Ул. Содаль), выдаўцы (З. Санько), а таксама музейныя супрацоўнікі (Ф. Ваданосава, А. Бурбоўская, Н. Шувагіна-Адамовіч, А. Кніга, Л. Шагойка). Прысутнічалі на семінары студэнты БДУ.

Напачатку мерапрыемства уступнае слова ўзяў дырэктар Купалаўскага музею сп. С. Вечар. Потым усіх прысутных вітаў старшыня Міжнароднага фонду імя Я. Купалы, доктар філалагічных навук, прафесар сп. В. Рагойша.

Дзякаваць Богу, што і сёння людзі збіраюцца разам, каб ушанаваць памяць і адзначыць добрым словам працу нашага славутага паэта, асветніка, гуманіста Я. Купалы. Каб падвесці вынікі зробленага, правесці паралелі паміж асветніцкай, навукова-даследчай, літаратуразнаўчай, выдавецкай дзейнасцю часоў заснавання "Нашай Нівы" і сучаснасцю. І сапраўды, тыя праблемы, якія ўздымала газета, актуальныя і сёння: адраджэнне і забарона беларускай мовы, заняпад нацыянальнай культуры, ідэі, нацыянальнай дзяржаўнасці. Місію па выкананні гэтых праблем узялі на сябе ў пачатку XX стагоддзя паэты і пісьменнікі-"нашаніўцы" на чале з Янкам Купалам.

Гэтаксама і сёння традыцыі адукацыі, выхавання нацыянальнай свядомасці працягваюць на старонках сваіх публікацыяў газеты "Наша Ніва" і "Наша слова".

*Наш карэспандэнт.*

## "НАШАЙ НІВЕ" – СТО ГОД!

*Заява Сакратарыяту ТБМ*

**Шаноўнае спадарства!**

Грамадскае аб'яднанне «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны» віншуе Вас з выдатнай падзеяй – 100 гадоў таму выйшаў першы нумар беларускай газеты «Наша Ніва». З яе старонак на ўсю моц загучаў голас самабытнага народа, багатага сваёй гісторыяй і культурай. Сваёй дзейнасцю супрацоўнікі рэдакцыі выхоўвалі пачуццё нацыянальнай годнасці і спрыялі самаўсведамленню беларускага народа. Для кожнага беларуса выданне «Нашай Нівы» (1906 – 1915 гг.) — прыклад самаадданага служэння Бацькаўшчыне.

Мы заклікаем супрацоўнікаў выдання, якое сёння носіць святую для кожнага свядомага беларуса назву, не выракацца традыцыяў і ідэалаў сваіх папярэднікаў, найвыбітнейшых «нашаніўцаў» пачатку мінулага стагоддзя – братоў Луцкевічаў, Купалы, Ластоўскага ды многіх іншых.

Віншуем усіх супрацоўнікаў «Нашай Нівы» з вялікім Юбілеем, жадаем ім творчага плёну, а таксама заўжды любіць і адстойваць Беларушчыну ва ўсіх праявах нашага жыцця. Заклікаем таксама ўсіх чытачоў «Нашай Нівы» і надалей падпісвацца на гэтае ды іншыя беларускамоўныя выданні, а таксама заахвочваць да гэтага сяброў, сваякоў, знаёмых. Бо калі не вы, дык хто? І калі не сёння, дык калі?..

Жыве беларуская справа!
Жыве беларускае Слова!
Жыве Беларусь!

*З павагай, Сакратарыят ТБМ.*



№ 47 (783) 22 ЛІСТАПАДА 2006 г. Наша Слова

*Уладзімір Содаль*

# "НАША НІВА" - ЛЕГЕНДА БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ

## *З нагоды сотай гадавіны з часу заснавання "Нашай Нівы"*

### ПРАГА "НАШАЙ НІВЫ"

Пра "Нашу Ніву" людзі майго пакалення чулі найперш у школе пры знаёмстве з творчасцю Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Канстанцыі Буйлы, Алаізы Пашкевіч-Цёткі, Максіма Гарэцкага і шмат-шмат каго іншых. Менавіта ўсіх іх паклікала да творчасці "Наша Ніва" Гэта інтрыгавала. Аднак пазнаёміцца з самім выданнем, з арыгіналам "Нашай Нівы" мала з нас хто тады мог. Хіба толькі тыя, хто жыў у Менску. І то з асобага дазволу. А яго давалі не кожнаму. Дый не ва ўсіх менскіх бібліятэках, прынамсі і ў так званай Ленінскай дый і ў акадэмічнай, быў поўны камплект гэтага выдання за ўсе гады. Яшчэ ратавала цікаўнасць самых апантаных Вільня. Ў віленскіх бібліятэках "Нашу Ніву" можна было пачытаць у больш поўных камплектах. Але адно чытаць "Нашу Ніву" у бібліятэках, архівах, а другое — дома. Спакойна, няспешна, з вяртаннем да прачытанага раз, і другі — з кубачкам кавы ці гарбаты. Якраз такая мажлівасць мне аднойчы выдалася. Было гэта дзесь на самым пачатку васьмідзесятых гадоў. Я працаваў на Беларускім тэлебачанні вядаваў талевізійны часопіс "Роднае Слова" Аднойчы мне захацелася распавесці пра " Нашу Ніву" з тэлевізійнага экрана. Я пазнаёміўся з наяўнымі нумарамі "Нашай Нівы" у нацыяльнай бібліятэцы. От гэтым часам пра маё памкненне дачуўся і вядомы зараз фалькларыст і энцыклапедыст Янка Саламевіч. Ён пад вялікім сакрэтам сказаў, што мае колькі гадавікоў гэтай легендарнай газеты і можа мне даць на колькі дзён пакарыстацца імі дома.

Я не паверыў сваім вушам: я магу ў звыклых хатніх абставінах разам з сям'ёю з сваімі дзецьмі чытаць "Нашу Ніву", газету-легенду!

Праз колькі дзён Янка Саламевіч прынёс абяцаныя гадавікі і мы сваёй дружнай сямейкай з гэтай газетай правялі не адзін вечар. Пра гэта сведчаць і фотаздымкі той пары. Як каму, а для мяне гэтае чытанне сталася знакавым, накіроўным да пошукавай і даследнай працы, якая працягваецца да гэтае пары. Але пра гэта я хіба крыху пазней. А зараз дарэчы згадаць, адкуль жа ў Янкі Саламевіча такі рэрытэт. Уражаны нечаканай сустрэчай з "Нашай Нівай", сустрэчай неверагоднаю, я з этычных меркаванняўне ацважыўся пацікавіцца, адкуль у яго, у Янкі Саламевіча такі скарб, адкуль у яго такая каштоўнасць.

І толькі праз шмат гадоў Янка распавёў:

— Працаваў у нас, у энцыклапедыі Мікалай Камінскі. От ад яго і дасталося мне колькі гадавікоў нашай першай беларускай газеты, А яму гэтыя гадавікі дасталіся з архіву. Да энцыклапедыі Камінскі працаваў у архіве. У якім? Здаецца, Кастрычніцкай рэвалюцыі. Там якраз захоўваліся згаданыя гадавікі. А на той час вядома, якая была трактоўка "Нашай Нівы" — ліберальная, дробна буржуазная. То каму такая газета патрэбная ў краіне, дзе от-от настане камунізм. Дык от адзін з кадэбістаў, апякун архівістаў, і кажа Камінскаму:

- Калі хочаце, можаце забраць сабе.

І Камінскі забраў. Тады што? Камінскі збядneў, і я за пэўную плату купіў тыя гадавікі. З іх Зміцер Санько адбіў факсімільныя водціскі. Мне дасталася ад Камінскага "Наша Ніва" за 1912-1914 гады.

Я ж пацікавіўся тады: у якой нашай бібліятэцы захаваліся поўныя камплекты "Нашай Нівы". І такой бібліятэкі мне не назвалі. Давялося камплектаваць гадавікі "Нашай Нівы" з разрозненых збораў розных бібліятэк. Гэтым парадкам, праз ксеракапіраванне, былі ўкамплектаваны гадавікі старой "Нашай Нівы" у нашых бібліятэках, і гэтым самым нашы даследнікі і проста чытачы атрымалі мажлівасць прасачыць гісторыю станаўлення нашай першай легальнай газеты. І не толькі гісторыю газеты, але і народзіны новай беларускай літаратуры і іншых праяў беларускай культуры. "Наша Ніва" — гэта жывы летапіс Беларусі.




### ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ І "НАША НІВА"

На першы погляд мо трохі і не суладна звязваць паэтава імя і паўстанне першай беларускай газеты. Наш славуты пясняр і адвакат, як вядома, пакінуў Божы Свет у 1900 годзе, а "Наша Ніва" заявіла пра сябе толькі ў лістападзе 1906 года. "Ну і што з гэтага, — кажа кампазітар Ян Тарасевіч. — Францішак Багушэвіч сваёй "Дудкай Беларускай" справакаваў беларусаў, раскатурхаў іх прысніпаную нацыянальную свядомасць. З'яўленне "Нашай Нівы" ёсць вынік таго рэзанансу, які зрабіла на Беларусь "Дудка Беларуская" з яе палымянай прадмовай. Прыгадайма: "Наша мова для нас святая: яна нам ад Бога дадзена... Мова нашая ёсць такая ж людская і панская, як і французская, альбо нямецкая, альбо і іншая якая..."

Што ж, калі глыбока задумацца, усё, як належна. узважыць, асэнсаваць, кампазітар Ян Тарасевіч мае рацыю. Менавіта Багушэвічавы кнігі прывялі ў рух прыспаны беларускі люд, паклікалі да паўстання першых беларускіх газет на пачатку дваццатага стагоддзя.

Грамадскія погляды братоў Луцкевічаў, Івана і Антона, заснавальнікаў "Нашай Нівы" таксама фармаваліся пал уплывам Багушэвічавых твораў, прынамсі яго Паадмоў. Распірала ад твораў Мацея Бурачка і яшчэ аднаго будучага нашаніўца — Аляксандра Уласава. Да выдання газета заставаўся адзін крок. Чакалася адпаведная сітуацыя, і яна настала ў лістападзе 1906 года.

"Ці ж нам ужо канечне толькі на чужой мове чытаць і пісаць можна? - пытаўся наш Прарок да ўсіх сваіх суайчыннікаў, у каго яшчэ цепліася ў свядомасці згадка пра нашы Статуты. Літоўскія "па дзвесце, па трыста гадоў таму пісаных у нашай зямлі і пісаных вялікімі панамі, а нашай мовай чысценькай, як бы вот цяпер пісалася".

От усе гэтыя Багушэвічавы пастулаты і паспрыялі паўстанню да жыцця "Нашай Нівы". Гэта ўсе ведаюць, але не грэх з нагоды сотай гадавіны з часу паўстная да жыцця "Нашай Нівы" нагадаць пра выток першых беларускіх газет пачатку дваццатага стагоддзя, асабліва тым, у каго думка гэтая толькі ў зародку. То хай яна стане для іх аксіёмай.

### ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ У "НАШАЙ НІВЕ "

Гэта бясспрэчна: "Наша Ніва" ўзышла пад зоркаю "Дудкі Беларускай", і кожны нумар яе так ці інакш асвечаны Багушэвічавым імем. Дый само ягонае імя не сыходзіць з нашаніўскіх старонак.

Напачатку гэта былі абвесткі, што ў выдавецкай суполцы "Загляне сонца ў наша ваконца рыхтуюцца да выдання Багушэвічавы кніжкі "Дудка Белапуская" і " Смык Беларускі". Гэтая абвестка ўжо з чацвёртага нумара за 1906 год. Затым пачалі з'яўляцца абвесткі, што гэтыя кнігі нарэшпе выйшлі. Пра гэта "Наша Ніва" паведаміла 4 /17/ ліпеца 1908 года. Затым гэтая абвестка была неаднаразова паўторана, з удакладненнем, што згаданыя кнігі прадаюцца ў канторы "Нашай Нівы" Але ўжо ў дваццаць другім нумары за 23 / 5/ кастрычніка 1908 года "Наша Ніва" (паведаміла, што цэнзура арыштавала выдадзеныя суполкаю "Загляне сонца і ў наша ваконца" Багушэвічавы кніжкі разам з Купалавай "Жалейкай".

З лёсу Багушэвічавых кніг "Наша Ніва" не зводзіла свайго зацікаўленага вока, пакуль не адбыўся суд над "Жалейкай" і "Дудкай Беларускакі", і не быў зняты арышт. "Нашай Ніве" належыць і шэраг першапублікацый празаічных твораў Францішка Багушэвіча. Сярод іх абразкі "Сведка", "Палясоўшчык", "Дзядзіна? Усе яны былі ўпершыню надрукаваны на старонках " Нашай Нівы" за 1907 год.



ПАЛЯСОУШЧЫК.

Цікава было б даведацца, як яны, праз каго патрапілі на рэдакцыйны стол "Нашай Нівы". Выказваецца меркаванне — праз Зыгмунта Нагродскага, тагачаснага віленскага прадпрыймальніка, з якім Францішак Багушэвіч хаўрусаваў. І гэта зусім верагодна. Зыгмунт Нагродскі цікавіўся постаццю Фр. Багушэвіча, балазе, сам меў літаратурную позву. І вельмі лагічна, да яго патрапіла колькі Багушэвічавых празаічных аўтографаў, прынамсі тых, што былі надрукаваны ў 1907 годзе ў "Нашай Ніве". Між іншым, у архіве "Нашай Нівы" ацалела фірмовая капэрта Зыгмунта Нагродскага. На ёй накрэслена друкарскім шрыфтам: "Зыгмунтъ Нагродзки, Вильно. Zygmunt Nagrodzki, Wilno." і рукою *"Do redakcji "Naszej Niwy"*.

З гэтага відаць, што Зыгмунт Нагродскі быў у "Нашай Ніве" свой чалавек. Ацалеў і адзін фотаздымак, на якім бачым Нагродскага разам з аўтарам "Дудкі Беларускай" у Кушлянах.

На ставонках "Нашай Нівы" часта друкаваліся допісы з Смаргоншчыны, Ашмяншчыны, з радзімы Рукойнаў Францішка Багушэвіча. Некаторня гэтыя допісы мне ўдалося расчытаць, раздабыць звесткі пра іх аўтараў. І адзін з іх пра Багушэвічавага сваяка Янку Тарчэўскага.

### З-ПАД НАШАНІЎСКАГА КРЫЛА

Тарчэўскі Ян /Іван/ Янавіч (нарадзіўся 10.10. 1881 г. у засценку Асінаўка Ашмянскага павету, памёр 29. 03. 1929 г.) - беларускі адраджэнец нашаніўскай пары.

Пад час рэвалюцыі 1905-1907 гадоў у Ашмяне і сваім засценку Асінаўка праводзіў палітычную і агітацыйную працу, падымаў нацыянальную свядомасць тутэйшага люду, ладзіў з імі патаемныя сходы, вечарыны, дзе чытаў беларускія кніжкі, адозвы і іншую рэвалюцыйную літаратуру. Пашыраў на Ашмяншчыне "Нашу Ніву*; пісаў у яе за рознымі псеўданімамі. Прымаў удзел у абмеркаванні, якім шрыфтам друкаваць "Нашу Ніву".

Неўзабаве заводзіць сям'ю, бярэ за жонку Багушэвічаву пляменніцу, займаецца гаспадаркай і асветніцкай працай. На пачатку дваццатых гадоў, ужо ў Заходняй Беларусі, займаецца школьніцтвам, адчыняе беларускія школы, вучыць дзяцей беларускай мове, бел. гісторыі, прымае самы чынны ўдзел у розных беларускіх соймах, якія ладзіліся ў тую пару ў Вільні беларускімі нацыянальнымі дзеячамі. Тады ж Т. быў кнігаром ашмянскай кнігарні, Беларускага выдавецкага таварыства. Ставіў спектаклі паводле п'есаў Ф. Аляхновіча - "Птушка шчасця", "Страхі жыцця". Блізкімі сябрамі яго былі ксяндзы В. Гадлеўскі і Я. Станкевіч, а таксама вядомы заходнебеларускі дзяяч А. Стэфановіч. На нацыянальны грунт Т. прыйшоў праз творчасць Фр. Багушэвіча, быў параднены з Багушэвічавым родам, меў шлюб з дачкой Багушэвічавай сястры Ганны Марыяй. Багушэвічаву асобу лічыў узорам служэння Радзіме, Бацькаўшчыне, узорам грамадзянства. Доўгі час у яго засценку Асінаўка перахоўвалася Багушэвічава бібліятэка, сямейны Багушэвічаў альбом. Ні да якіх партый не належаў, але паводле некралогу, змешчанага ў газеце "Bielaruskaja krynica", быў шчырым беззапаветным працаўніком на беларускай ніве, за што не адзін раз меў вобыскі, рэвізіі, сядзеў у астрозе. Тарчэўскі быў шырока знаны на Ашмяншчыне і ў суседніх паветах як чалавек добрай душы і беларускі дзяяч. Як стойкі прадстаўнік на беларускай ніве... Тарчэўскі знаў адно - Беларусь - і да гэтага праз усё жыццё сваё імкнуўся. Маючы здаровы беларускі розум, не любіў і ўважаў за шкодную праяву падзел беларусаў на партыі, не хацеў фармальна належаць да ніводнай беларускай палітычнай партыі і адносіўся да іх на гэтулькі прыхільна, наколькі данаяпартыя мела на грунце арыентацыю — Беларусь. Будучы сапраўдным беларускім патрыётам, стараўся заўсёды аб'ядноўваць, як беларускія палітычныя арганізацыі, так і паасобныя адзінкі, не баючыся публічна сказаць праўду ў вочы і найбліжай таму, нават, асабістаму прыяцелю, калі бачыць шкоднасць ягонай дзейнасці справе беларускай.

От такіх людзей гуртавала вакол сябе "Наша Ніва", і Ян Тарчэўскі сярод іх быў не адзін, не адзіны.



ЗЫГМУНТЪ НАГРОДЗКИ ZYGMUNT NAGRODZKI
ВИЛЬНО. WILNO.

# Напрыканцы года заўжды хапае працы

Вось і падыходзіць да завяршэння вельмі складаны ў палітычных адносінах 2006 год. ТБМ здолела ўтрымацца ў нялёгкай палітычнай сітуацыі і нават здолела пашырыць свой уплыў у некаторых рэгіёнах Беларусі. вельмі добра працавалі нашы структуры ў Віцебску, Полацку, Светлагорску, Лідзе, Гародні, Менску, Магілёве, Баранавічах. Актыўна пачалі працаваць сябры ТБМ у Слуцку і Салігорску. У нашыя шэрагі актыўна ўступае моладзь, вучні старэйшых класаў і студэнты. Рэгулярна выходзіць наша газета, прычым да кастрычніка яна мела 12 старонак. Газета ўключана не толькі ў **падпісны каталог**, але і ў **каталог крамаў "Белсаюздруку"**, дзе падпіска больш танная.

Зараз нам неабходна атрымаць як мага болей падпісчыкаў на "Наша слова", бо грошы на выданне амаль скончыліся, і аб'ём газеты значна зменшыўся. Сакратарыят разам з рэдакцыяй газеты вырабіў значную колькасць падпісных бланкаў і разаслаў іх разам з газетамі ў найбольш буйныя і актыўныя арганізацыі ТБМ. Асабліва нас хвалюе становішча з падпіскай у Гомельскай і Магілёўскай абласцях, і мы спадзяёмся, што нашыя сябры ў Гомелі, Магілёве, Мазыры, Бабруйску, Светлагорску, Горках і Жыткавіцкім раёне адгукнуцца на нашую просьбу.

Каб палепшыць нашае матэрыяльнае становішча, а зараз арэндная плата за сядзібу ТБМ павысілася (пачаўся зімовы ацяпляльны перыяд), патрэбна актывізаваць збор сяброўскіх складак і ахвяраванняў. Мы друкуем узор скарбовага ліста за 2006 год. Яго можна скарыстаць і для збору складак за 2007 год.

У сувязі з дзеяннем новага Закона аб грамадскіх арганізацыях мы просім кожнага кіраўніка раённых, гарадскіх і абласных арганізацый даслаць нам да 15 снежня справаздачу аб дзейнасці сваёй структуры за 2006 год.

У бліжэйшых нумарах "Нашага слова" мы надрукуем праект плана работы ТБМ на 2007 год, які быў абмеркаваны на апошнім паседжанні Рэспубліканскай Рады. Просім Вас да 1 студзеня 2007 года даслаць у Сакратарыят свае пісьмовыя прапановы і дадаткі да будучага плана нашай дзейнасці ў наступным годзе, годзе юбілею нашых класікаў Янкі Купалы і Якуба Коласа.

Як заўсёды спадзяёмся на вашую падтрымку.

З павагай, сакратарыят ТБМ.

Старшыня ТБМ А. Трусаў.

16 лістапада 2006 г.

*Скарбовы ліст*

*складак сяброў ________________________________________*

***Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны***

***за 200__ год***

*(6000 руб. у год - працуючыя, 3000 руб. у год - пенсіянеры і студэнты, 1000 руб. – школьнікі), грамадзяне РФ -60 руб., іншых краін - 5$)*

| № п/п | Прозвішча, імя | Штогадовыя складкі | Ахвяраванні | Агульная сума | Подпіс сябра таварыства аб аплаце складак |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | | | | |
| 2 | | | | | |
| 3 | | | | | |
| 4 | | | | | |
| 5 | | | | | |
| 6 | | | | | |
| 7 | | | | | |
| 8 | | | | | |
| 9 | | | | | |
| 10 | | | | | |
| | *Разам:* | | | | |

*Усяго ___________________________________рублёў*

*Скарбнік першаснай суполкі____________________(подпіс)*

**** Сабраныя складкі можна пералічыць на разліковы рахунак ТБМ № 3015212330014 у Гардырэкцыі Белінвестбанка г. Менска код 764 праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк ( камісійны збор пры гэтым не бярэцца)*

# Сяргей Чыгрын падтрымаў эстафету

**Ёсць краязнаўцы, якія больш рупяцца пра збор матэрыялаў, напрыклад, аб роднай вёсцы, чым пра тое, каб на падставе сабранага апублікаваць допіс. Сяргей Чыгрын са Слоніма у гэтым сэнсе – шчаслівы чалавек. Ён спалучае талент збіральніка, аналітыка, гісторыка з літаратурнай здольнасцю цікава данесці назапашанае да чытача. Пацверджаннем гэтага служыць яго чарговы зборнік "Чамяры і чамяроўцы" (Мінск, "Беларускі кнігазбор", 2006).**




У цэлым - гэта літаратурна-краязнаўчы нарыс, складзены з грунтоўнага даследавання роднага паселішча ("З гісторыі вёскі") і дзесяці партрэтных замалёвак пра знаных асобаў ("Родам з Чамяроў"). Прозвішчы многіх людзей, пра якіх вядзецца размова, як гаворыцца, пастаянна на слыху. Але заўсёды хацелася ведаць пра іх больш. І вось – калі ласка, чытай!

А даведацца можна шмат пра што і пра каго. Напрыклад, пра самога аўтара. Спасылкі падказваюць, колькі часу ён правёў у архівах, "пералапаціў" выданняў, каб знайсці патрэбны матэрыял. Затое атрымалася цікавае, хрэнагалічнае складзенае краязнаўчае даследаванне пра Чамяры. Вёска бярэ пачатак у 14-м стагоддзі. А заканчвае свой нарыс спадар Сяргей упамінаннем таго, што ў тут прайшлі дзяцінства і гады цяперашняга міністра абароны Беларусі Леаніда Мальцава...

З цікавасцю чытаюцца допісы пра Максіма Бурсевіча, братоў Андрэя і Ілю Пракапчукоў, Міхася Міско, Анатоля Іверса, Якуба Міско, Сцяпана Міско, Івана Чыгрына, Івана Міско, Уладзіміра Іскрыка, Ігара Бурсевіча.

Трэба сказаць, што зборнік "Чамяры і чамяроўцы" не першая кніга Сяргея Чыгрына. Гісторыка-краязнаўчыя работы "Янка Купала і Слонімшчына" (1993), "Родам са Слонімшчыны" (2003), "Паклікання на родны парог" (2005) сталі добрым дапаўненнем раней выдадзеных зборнікаў вершаў – "Шчырая Шчара", "Горад без цябе".

Гэта вельмі добра, што пачалі часцей з'яўляцца кнігі пра сваё роднае котлішча. Некалькі гадоў назад краязнаўца Аляксандр Талерчык надрукаваў брашуру "Парэчча". У гэтым годзе выдадзены зборнік Мікалая Мельнікава "Адчай, боль і горыч". Хто стане аўтарам наступнай?

*Антон Лабовіч, Гародня.*

# "Белпошта" шчыруе для Беларусі




УП "Белпошта" ў серыі гарады Беларусі пачала выпуск канвертаў з выявамі абласных цэнтраў нашай краіны. На канвертах прысвечаных Гомелю і Менску - найбольш знакамітыя гістарычныя помнікі і віды самых прыгожых мясцінаў кожнага з гарадоў. На чарзе астатнія абласныя, і, магчыма, не толькі цэнтры.

# Выстава Янкі Рамановіча

24 лістапада ў Берасцейскай галерэі "Беларт" адбудзецца адкрыццё выставы мастака Янкі Рамановіча, даўно вядомага не толькі на прасторах Беларусі.

Янка даволі рознабаковы мастак, яго цікавіць амаль усё, што творыцца ў сучасным мастацтве. Ён пастаянна знаходзіцца ў пошуках новых адкрыццяў. Як у сваёй майстэрні, так і на плянэрах Янка выкладваецца на ўсе 100 працэнтаў. Парой дзівішся, колькі энергіі ў гэтага чалавека. Калі сачыць за за яго творчай дзейнасцю, то ён настолькі непрадсказальны, што цяжка ўявіць, які сюрпрыз ён можа выкінуць у наступны раз.

Янка добра авалодаў класічнай школай жывапісу. У сваіх творах ён абавязкова ўносіць сваю філасофію, сваю паэзію, сваю мелодыю - адным словам - сваю душу, душу Беларуса.

У творах і глыбокае пранікненне ў нацыянальную тэму, і роздум над гістарычным мінулым з сённяшнім днём. Тут спалучаюцца і актыўнасць колеру з пластыкай формаў, ліній, і стрыманасць узаемадзеяння тонкіх спалучэнняў каларыстык з раўнавагай, статыкай. Усе гучысь, выліваецца нястрыманная энергія разам з цішынёю і спакоем.



*Янка Рамановіч. Нарадзіўся 19 лістапада 1977 года ў вёсцы Моталь на Берасцейшчыне.*

*1989 - 1996 гг.- вучоба ў Беларускім ліцэі мастацтваў імя Івана Ахрэмчыка.*

*1996 - 2002 гг.- вучоба ў Беларускай акадэміі мастацтваў, аддзяленне "станкавы жывапіс". Настаўнікі: народны мастак Беларусі Май Данцыг, Віталь Герасімаў, Аляксандр Ксяндзоў. Дыпломная праца "Бабіна лета." п. а. 220х180 пад кіраўніцтвам Аляксандра Ксяндзова.*

*Удзельнік шматлікіх мастацкіх выстаў з 1994 г.*

*Адзначаны дыпломам вышэйшай ступені Міністэрства культуры РБ.*

*Адзначаны дыпломам 3 ступені за перамогу на рэспубліканскай выставе-конкурсе "Падарожжа 2004."- 2004 г. Беларускага саюза мастакоў.*

*1 месца па выніках Рэспубліканскага плянэру, прысвечанага Уладзіміру Караткевічу.*

*Працуе ў розных жанрах жывапісу, графіцы, пераважна ў жанры партрэта, нацюрморта, пейзажа і станковай карціны.*

*З 2001 года ў аб'яднанні маладых мастакоў і мастацтвазнаўцаў.*

*З 2005 года сябра Беларускага саюза мастакоў.*

*Жыве мастак Янка Рамановіч у вёсцы Моталь на Берасцейшчыне.*

Кампазіцыя дасканала прадуманая, няма нічога лішняга, усё ўзаемадапаўняецца. Янка пастаянна аналізуе колердвую гаму, праз яго творчасць праходзіць як сімвалізм з постмадэрнізмам так і постававангардызм, але усё прасякнута тэмай Беларусі. Тут парою спалучаецца неспалучальнае, але няма выпадковага. Цікава яшчэ тое, Янка не цураецца старога добрага рэалізму, ён жыве на сваёй радзіме ў вёсцы Моталь, тут яго сям'я, дом, майстэрня, і не глезячы на тое, што пасля акадэміі яму прапаноўвалі шмат розных перспектыўных варыянтаў, Янка выбраў шлях мастака.

*Людміла Леванчук.*



*Я. Рамановіч. Хутар.*



*Я. Рамановіч. Ляда, якая падымае дрэва.*

# У Вільні выдадзены альбом беларускага мастака Напалеона Орды

Віленская мастацкая акадэмія (Літва) выдала альбом, у якім прадстаўленыя ўсе выяўленыя ў архівах і музеях каляровыя малюнкі і акварэлі вядомага беларускага мастака і кампазітара Напалеона Орды (11..02.1807, вёска Варацэвічы Іванаўскага раёна Берасцейскай вобласці 26.04.1883) .




Як паведаміў БелаПАН старшыня грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" Алег Трусаў, альбом, прымеркаваны да 200-годдзю са дня нараджэння Н. Орды, падрыхтаваны вядомым літоўскім навукоўцам у вобласці гісторыі айчыннай архітэктуры эпохі класіцызму, дэканам факультэта Каўнаскага ўніверсітэта імя Вітаўта Вялікага, прафесарам Вітаўтасам Левандаўскасам і яго памочніцай Рэнатай Вайчэконітэ-Кепяжынскене. Па словах А. Трусава, кніга з'яўляецца найболей поўным выданнем твораў Н. Орды, якія былі знойдзеныя па выніках працы ў архівах і музеях Францыі, Польшчы, Беларусі, Літвы і Украіны. "Каштоўнасць гэтага ўнікальнага выдання ў тым, што ў ім упершыню так поўна і ў колеры прадстаўлена творчая спадчына нашага выбітнага суайчынніка, з якім мы знаёмыя, у асноўным, па чорна-белых літаграфіях. Акрамя таго, усе малюнкі славутых мясцін і знакамітасцяў, звязаных з Беларуссю, забяспечаныя анатацыямі на літоўскай і беларускай мовах", — сказаў А. Трусаў. Ён выказаў надзею, што выданне будзе набыта вядучымі бібліятэкамі Беларусі.

Мастацкую адукацыю Н. Орда атрымаў у Парыжы. Удзельнічаў у нацыянальна-вызвольным паўстанні супраць рускага царызму ў 1830-31 гадах. З канца 1830-х гадоў жыў у Парыжы, сябраваў з Фрэдэрыкам Шапэнам і Адамам Міцкевічам. З 1856 года жыў у Пінску, а затым пераехаў на Валынь, дзе быў дарэктарам. Падарожнічаючы па Беларусі, Украіне, Польшчы і Літве рабіў замалёўкі помнікаў архітэктуры і мясцінаў, звязаных з жыццём і дзейнасцю знакамітасцяў. Па малюнках і акварэлях мас-така ў 1873-1883 года мастак А. Місуровіч узнавіў і выдаў у Варшаве 260 графічных лістоў літаграфій у 8 серыях.

*Марат Гаравы, БелаПАН.*

# Мемарыял ў вёсцы Выня Капыльскага раёна

10 лістапада ў вёсцы Выня Капыльскага раёна Менскай вобласці адкрыты мемарыял мясцовым жыхарам — ахвярам сталінскіх рэпрэсій 1929—1945 гадоў.

Як паведаміў БелаПАН удзельнік цырымоніі адкрыцця помніка, вядомы даследчык тэмы сталінскіх рэпрэсій, кандыдат гістарычных навук Ігар Кузняцоў, у вёсцы былі рэпрэсаваны 74 са 140 двароў, кожны чацвёрты жыхар Выні. Мемарыял складаецца з трох металічных крыжоў (праваслаўнага, каталіцкага і уніяцкага), а таксама пліт чорнага паліраванага мармуру, на якіх выбіты імёны рэпрэсаваных жыхароў вёскі — загінулых і бязвінна пацярпелых. Помнік быў пабудаваны пры духоўнай і экуменічнай падтрымцы менскага касцёла святых Сымона і Алены (Чырвонага касцёла), мясцовых уладаў, якія далі дазвол на ўзвядзенне мемарыяла, грамадзян ЗША — членаў сям'і Канстанціна Кучынскага — ураджэнца вёскі Выня, а таксама аднавяскоўцаў і іх родных.

"Аднак галоўная заслуга ў пабудове мемарыяла належыць ураджэнцу вёскі Станіславу Лісоўскаму, які выканаў запавет бацькі ўвекавечыць памяць сваіх аднавяскоўцаў. Ён сабраў неабходныя сродкі, быў аўтарам ідэі мемарыяла і арганізатарам яго ўзвядзення", — сказаў І. Кузняцоў.

Паводле яго слоў, С. Лісоўскі з'яўляецца ініцыятарам стварэння падобнага да гэтага мемарыяла ў вёсцы Чарнагубава Капыльскага раёна, дзе нарадзілася яго маці.

На адкрыцці мемарыяла ў Выні прысутнічалі каля 50 жыхароў і ксёндз-магістр, настаяцель Чырвонага касцёла Уладзіслаў Завальнюк, які правёў памінальную імшу.

Прадстаўнікі Беларускай праваслаўнай царквы і беларускай Грэка-каталіцкай царквы ў цырымоніі не ўдзельнічалі.

*Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:* № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:* 220034, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231282, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* naszaslowa@tut.by
http://tbm.org.by/ns/

*Рэдакцыйная калегія:*
Міхась Булавацкі, Людмiла Дзіцэвіч, Валер Задаля, Вольга Іпатава, Васіль Ліцьвінка, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 20. 11. 2006 г. у 10.00. Замова № 2398.
Аб'ём 1 друкаваны аркуш. Наклад 2000 асобнікаў.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 1640 руб., 3 мес.- 4920 руб.
*Кошт у розніцу:* па дамоўленасці.